# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літаратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытальна. Апалата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак: за 1 радок за тэкстам . 2 м. шукаючым працы, за абвестку . . . . 2 м.

№ 15. Менск, Пятніца, 26 верасьня 1919 г. № 15.


Дзеле вялікага недахвату паперы, газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: у **панядзелак, сераду і пятніцу.**

## Незалежная Беларусь і Расія.

Расія часоу царызму уяуляла з сябе Бабілонскае царства. Гэта была агромністая турма, где усе трымалося гвалтам, уціскам і зьдзекам з чалавечай душы. Скованые кайданамі няволі, народы бышай Расіі з пракляцьцем памагалі маскоуцам будаваць тую бабілонскую вежу да нябес, каторую яны называлі „единой, неделимой Россией". І калі Расію трапіу льос бабілонскай вежы і усе народы разышліся кожны у свой бок, то расійцы вельмі абразіліся і сталі даводзіць народам, што яны не адпавядаюць за учынкі царызму і не вінаваты у тым, што рабілося іх Навуходаносарамі. Але іх ніхто не паслухау. Усім было ясно, што царскай рабоце над уціскам народау спачувало усе расійскае трамадзянство бяз розьніцы політычнага вызнаньня. І трэба было толькі часу, каб гэта заувыжыу увесь сьвет. Зьмяняліся урады у Маскве, бралі уладу усе політычные групіроукі, якіе здолала вытварыць бабілонская маскоуская культура, і мы небачылі там людзей, з каторымі-бы можна было гаварыць, або каторые-б адракліся ад тае вежы, каторую яны называюць „единой і неделимой". Ужо ва што, здаецца, былі безшабашнымі маскоускіе бальшавікі, а і тые неперасталі марыць аб „матушке Россіи" і паказалі сябе самымі заядлымі маскоускімі імпэрыялістамі. Як авантурнік—Наполеон пад штандарам вольнасьці для Эуропы нес парабашчэньне народам, так і маскоускіе бальшавікі пад штандарам „советской власти" хавалі маскоускі імпэрыялізм і тварылі рэзрушанага бабілонскага балвана, каторы носіць назву вялікай маскоускай турмы народау. Усюды, куды бальшавікі не патрапялі, нацыянальнасць душылася і пачынала зноу панаваць грубая маскоушчына. Так было на Украіне, на Літве і у нас, на Беларусі, і так робіцца усюды, куды ступіць нага некультурнага, гультаяватага маскаля. Няхай не удаюць з нас шовіністау: мы гэта гаворым на аснаваньні фактау, каторых ня бачыць ці няхоча бачыць хіба той хто сам заражаны і хварэе на маскоускі імпэрыялізм.

Усе гэта зрабіло тое, што няма таго народу, каторы-бы хіліуся да дружбы з Расіяй. Усе—Украіна, Літва, Лотва, Эстонія, Фінляндыя, Польшча і навет Сібір—уцякаюць ад яе, як ад ганебна заражанай.

Мы тут ня кажам пра дзяржавы Эуропы, каторые глядзяць на Расію, як на сваю дойную карову. Гэта справа іншага гатунку, Мы маем на увазе політычную сувязь,каторая шукае сабе падтрыманьня, а не эксплуатацыі. Такой політычнай сувязі Беларусі з Маскоушчынай, або Расіяй, ніколі ня было і быць ня можа. Масква—была і засталася заклятым ворагам Беларусі, каторы пасягау і да гэтага часу пасягае на самае жыцьце нашага народу. Масква ніколі не памірыцца з тым, каб у політычнай сувязі з ею істнавау асобны беларускі, ці які іншы народ. І толькі незалежная Беларусь у злучнасьці з сваім суседам з Захаду можа забяспечыць сябе ад маскоускай навалы.

Свае адносіны да Расіі беларусы зазначылі ужо дауно. Яшчэ з першых дзен рэволюцыі адзіная на той час беларуская часопісь „Вольная Беларусь" у стацьці „Пара зьвярнуць увагу" рашуча перасьцярагала ад кампанейства з Масквою. Потым Рада Беларускай Народнай Рэспублікі граматай да народу абвесьціла увесь сьвет, што парывае сувязь з Расіяй і нарэшці, летась у восень, тая-ж самая Рада, насылаючы сваіх прадстаунікоу у Польшчу, на Украіну і да іншых народау, рашуча адмовілася весьці перагаворы з Расіяй, як зусім надарэмные і компрымітуючые.

## Аграрнае пытаньне на Беларусі.

Грамадзянство на Беларусі як і скрозь, складаецца з рожных пластоу, ці клясау. Мы маем: 1) уласьнікау буйных і дробных і 2) нічога ня маючых людзей, прадаючых сваю працу і гэтым жывучых, ці, коратка говорачы, пролетарыяу. Буйнымі уласьнікамі зьяуляюцца памешчыкі, фабрыканты. Сюды-ж трэба залічыць людзей, маючых велькіе вартасьці у гатоуцы, ці у таварах (капіталісты, купцэ). Да дробных уласьнікау належаць сяляне, рамесьнікі і гандлярэ.

Пролетарыят распадаецца на: 1) людзей, прадаючых свае духоуные сілы, ці інтэлігэнцыю і 2) людзей, прадаючых свае фізычные сілы, ці рабочых.

Коратка гэта можна запісаць у такой табліцы:

| Уласьнікі. | | Пролет. | |
|---|---|---|---|
| Буйные; памешч. фабрыкан. капітал. купцэ | Дробные: сяляне рамесьн. гандлярэ | інтэлігэнцыя. | рабочые. |

Ведама, што гэто—схема, бо, прыкладам, селянін і рамесьнік зьяуляюцца у той самы час і рабочымі, а інтэлігэнт зьяуляецца дробным уласьнікам, бо трудна дапусьціць інтэлігэнта, ня маючага, скажам кніг па сваей спэцыяльнасьці. Кожны кляс мае сваіх ідэолегау, каторые бароняць яго інтарэсы. Такім чынам мы маем партыі аграрыяу, эсэрау, кадэтау, эсдэкау рожных напрамкау.

Кожная партыя мае сваю політычную праграму, правядзеньне якой у жыцьце задаволіло-б перш усяго патрэбы клясу, які рэпрэзэнтуе гэта партыя.

У політычным жыцьці гэтые партыі есьць тое самае, што у мэханіцы сілы, прыложаные да аднаго цела. Як цело рушыцца па сярэдняму кірунку паміж двума кірункамі сіл, так політычнае жыцьце нігды ня ідзе па праграме якой-нібудзь адной партыі, а дарогаю компромісау ідзе па зусім новому кірунку.

Зрабіушы гэтые уводзіны, мы пакажам, што зямельнае пытаньне не павінно быць развязано на карысьць толькі аднаго клясу, хоць бы і самага велькага, а усяго грамадзянства, ці усіх клясау.

Да вайны у Расіі (і на Беларусі, як бышай частцы яе) праводзілася аграрная політыка Столыпіна, каторая хацела па магчымасьці утрымаць велькіе маенткі а сялянскіе гаспадаркі прыблізіць да тыпу маенткау, бо сяляне маглі сваю землю разбіваць на хутары, а купляючы і парцэлюючы маенткі абавязкова павінны былі дзяліць іх на хутары. Пры гэтым стараліся падняць культуру гаспадарак і пропагандавалі садзіць жыто у грады, як гэта робіцца у агародах. У „Сельскім Вестніку" папыралася ідэя, што з малога кавалачка зямлі пры умелай гаспадарцы можна жыць лепей, чым на большым, але кепска абробляным кавалку зямлі,

